Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 17—19 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 21 (46) | Вільня, 29-га верасьня 1934 г. | Год 2-гі.

## Наша становішча...

Некалькі дзён таму ў польскіх газэтах паявілася вестка аб робленых прыгатаваньнях да абмену вязьняў, які мае адбыцца між Саветамі і Польшчай. Звычайна, пры абмене вязьняў, які адбываўся раней, з боку польскага ўраду былі намечваны й прадбачаны вязьні толькі польскае нацыянальнасьці, якія за тыя ці іншыя праступленьні апынуліся ў савецкіх вастрогах або на Салоўках. Вось-жа перад маючым адбыцца абменам вязьняў між Польшчай і Саветамі хочам забраць у гэтай справе голас і мы, беларусы, на што мы маем поўнае права.

Лёс гісторыі судзіў частцы Беларусі апынуцца над Польшчай, у якой нават паводле афіцыяльнае ўрадовае статыстыкі знаходзіцца мільён шэсьцьсот тысячаў беларусаў. Лічба гэтая, бязумоўна, куды большая. Такім чынам польскі ўрад, рэпрэзэнтуючы Польшчу, як дзяржаву, павінен-бы быў рэпрэзэнтаваць і інтэрэсы беларусаў і іншых т. зв. нацыянальных меншасьцяў, якія ў Польшчы складаюць значны працэнт насяленьня. Гэтага аднак дагэтуль мы ня бачылі, а прыкладам можа служыць хоць-бы і той самы абмен вязьняў, пры якім беларусы ня браліся пад увагу. Выняткам можа быць паварот з Саловак вядомага беларускага драматычнага пісьменьніка і артыста Фр. Аляхновіча. Але і ў гэтым выпадку фактычна ня была гэта сталая акрэсьленая тэндэнцыя польскага ўраду да паразуменьня з беларускім грамадзянствам у падобных справах. Быў гэта папросту самастойны крок, на які беспасрэдна беларускае грамадзянства ўплыло ў вельмі, нязначнай меры. Але такі стан рэчаў ня можа існаваць так і надалей і якраз у гэткіх справах польскі ўрад павінен даць права і беларусам, знаходзячымся ў Польшчы, намячаць тых беларускіх вязьняў, якія, апынуўшыся дзеля тых ці іншых прычын на Салоўках або у савецкіх вастрогах, дарагія і карысны для беларускага народу. А на гэта, як ужо зазначылі, мы маем права.

Час, калі ў Савецкай Беларусі магла разьвівацца пэўная беларуская культурная праца, ужо мінуў. Лепшыя сыны Беларусі прасьледуюцца там і сотнямі ссылаюцца на Салоўкі. І вось якраз абмен вязьняў для беларусаў цяпер асабліва важны й актуальны.

З свайго боку мы хочам якраз парушыць справу абмену быўшых нашых паслоў, якія, веручы ў магчымасьць працы для беларускага народу ў Савецкай Беларусі, паехалі туды, але... горка ашукаліся. Рак-Міхайлоўскі, Мятла Валошын, Дварчанін, якія ўсе сілы і сваё жыцьцё пакладалі для працоўных беларускіх масаў, пасаджаны ў вастрог або сасланы на Салоўкі. Гэта хіба найлепш сьцьвярджае неналежнасьць іх да камуністычнае партыі і разьвейвае ўсе тыя закіды, якія стаўляліся ім польскімі ўладамі. Таму пры абмене іх з боку польскага ўраду ня можа быць ніякіх засьцярог адносна іх антыдзяржаўных намераў, хіба за выняткам нелегальнага пераходу граніцы. Вернем сваіх быўшых паслоў, вернем іх не для паноўных цярпеньняў, а для творчае працы на карысьць нашай Бацькаўшчыны!

## Арыштаваньне Янкі Купалы і Якуба Коласа.

У „Кур'еры Віленскім" з дня 25 га верасьня паявілася вестка, што разышлася погаласка аб арыштаваньні ў Менску Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Колас быццам ужо звольнены, а Купала далей знаходзіцца пад арыштам. Газэта пры гэтым зазначае, што вестка гэтая яшчэ няспраўджаная. Варта зазначыць, што яшчэ нядаўна Купала і Колас былі на Зьезьдзе савецкіх пісьменьнікаў у Маскве, які прызнаў Сталіна найвыдатнейшым сучасным пісьменьнікам. Ходзяць чуткі, што нашы поэты былі арыштаваны ў сувязі з выкрыцьцём сэпаратыстычных тэндэнцыяў у іх творчасьці. Калі вестка аб арышце Купалы і Коласа праўдзівая, то яшчэ маем адну кветку «беларускасьці» ў Савецкай Беларусі.

## Справа меншасьцяў у Лізе Народаў.

У Жэнэве ў бягучым месяцы, як і што год, адбываецца чарговая сэсія міжнароднай організацыі, Лігі Народаў. Спачатку адбыліся паседжаньні Рады Лігі, а пасьля агульнае сабраньне прадстаўнікоў паасобных дзяржаў. На апошнім сабраньні польскі міністр п. Бэк выступіў з праэктам зрэформаваньня трактатаў адносна нацыянальных меншасьцяў. Згодна з існуючымі трактатамі некаторыя дзяржавы Эўропы, у тым ліку і Польшча, забавязаны да аховы правоў сваіх нацыянальных меншасьцяў, тады як іншыя дзяржавы, як Францыя, Італія, Бэльгія, Данія, маюць у гэтым пытаньні вольныя рукі, гэта значыць справы сваіх меншасьцяў вырашаюць самі бяз усякага кантролю з боку Рады Лігі. Такое-ж права будуць мець і новапрынятыя ў сталыя сябры Рады Саветы, ад якіх пры ўступленьні ў Лігу такога забавязаньня і не вымагалася.

І вось міністр Бэк запрапанаваў пашырыць трактаты аб меншасьцях на ўсе бяз вынятку дзяржавы, дзеля чаго павінна быць склікана спэцыяльная конфэрэнцыя ў гэтай справе. Адначасна міністр Бэк заявіў, што Урад Польшчы да часу дадатняга вырашэньня гэтае справы ўстрымоўваецца ад разгляду паасобных меншасьцёвых выпадкаў. Проціў такога праэкту выступілі з прамовамі на агульным сабраньні Лігі прадстаўнікі вялікіх дзяржаў Эўропы — Англіі, Францыі, Італіі, якія і слухаць ня хочуць аб тым, каб і на іх былі пашыраны трактаты аб меншасьцях. Каб зглодзіць ўражаньне польскага праэкту згодна з існуючым звычаем у Жэнэве, справу скіравана да „адпаведных інстанцыяў", падзяліўшы яе на дзьве часткі, на пашырэньне трактатаў і на адмову польскага Ураду ад забавязаньняў.

Над першай часткай праэкту ў камісіі агульнага сабраньня Лігі адбыліся шырокія дыскусіі, прычым прадстаўнікі шмат якіх дзяржаў выказваліся за пашырэньнем трактатаў аб меншасьцях на ўсе дзяржавы, затое прадстаўнікі Англіі, Францыі і Італіі ізноў востра выступілі проціў польскага праэкту. Прадстаўнік Францыі заявіў, што »Францыя не дазволіць, каб адносна яе было высоўвана пытаньне аб меншасьцях«, а далей дадаў, што няма агульнага пытаньня аб меншасьцях, бо ў кожным краі іншае палажэньне.

Каб атрымаць праўную сілу, кожны праэкт у Лізе мусіць быць прыняты аднагалосна. Але на гэта, як было відаць, прадстаўнікі Польшчы разьлічаць не маглі і таму заявілі, што зьнімаюць свой праэкт з парадку дня. А сталася гэта таму, што ў сучасны мамэнт Францыя са згоды Англіі і Італіі, кінулася на новыя палітычныя комбінацыі, на зьбліжэньне і навет саюз з Саветамі, якія дзякуючы протэкцыі Францыі, трапілі ў склад Рады Лігі. Будучыня пакажа, хто пры гэткай комбінацыі выйграе, а хто прайграе.

*П.*

## Троцкі аб няўхільнасьці савецка-японскае вайны.

У аднэй з француск'х часопісяў б. ваенны камісар СССР Леў Троцкі, які, як ведама, знаходзіцца цяпер за межамі Савецкага Саюзу, адкуль быў выкінуты Сталінам, зьмясьціў артыкул аб шансах будучае савецка-японскае вайны.

Вайна гэтая, як думае Троцкі, наступіць няўхільна. Але які будзе прабег яе і хто мае болей шансаў на перамогу: Японія ці СССР?

Троцкі думае, што асаблівасьці тэатру вайны на Далёкім Усходзе (вялізарныя прасторы, рэдкая заселенасьць, благія шляхі, далячыня ад галоўных базаў)—робяць немагчымай концэнтрацыю мільённых вайсковых масаў, беспарыўны фронт і пазыцыйную вайну. Для Забайкальскага і Прыморскага акругоў стратэгія Наполеона, а мо' нават і Ганібала, захавала значную долю свае вартасьці.

Рэйды вялікіх масаў коньніцы могуць вясьці за сабою рашучыя перамены ваеннае карты. Вельмі вялікае важнасьці элемэнтам, якім сучасная тэхніка дапаўняе даўнейшую стратэгію, зьяўляецца авіацыя, як прылада разьведкі, лучнасьці, перавозкі і бомбардаваньня.

Паколькі вайна ў Прыморскім вокрузе будзе насіць манэўровы характар, рэзультат яе будзе залежаць ад здольнасьці паасобных аддзелаў дзейнічаць самастойна, ад ініцыятывы ніжэйшых начальнікаў, ад вайсковага духу салдатаў.

У гэтым сэнсе, як здаецца Троцкаму, чырвоная армія перавышае цяпер японскую прыблізна ў гэткай самай прапорцыі, як японская армія перавышала царскую ў 1904/1905 гг.

Токіо дасюль яшчэ не адважылася на збройны конфлікт з СССР. Кожны год мяняе суадносіны сіл на карысьць СССР проці Японіі. Ужо залажэньне прамысловае і вайсковае базы ў Кузьнецку звальняе Далёка-Усходні фронт ад неабходнасьці апірацца выключна толькі на эўропэйскі тыл.

Узмацненьне правознае здольнасьці чугункі Масква-Хабараўск, дзе цяпер праводзіцца другая лінія, зьяўляецца для савецкага Ураду задачаю першае чаргі ў 1934 годзе. Апрача таго пачата будова лініі ад Байкалу да ніжняга Амуру, на працягу 1.400 кілёмэтраў. Новая лінія будзе праходзіць цераз багаты на вугаль Барэйскі і багаты на мэталі Хінганскі раёны.

— Ня будзе парадоксам, — піша Троцкі, — што вайна паміж Японіяй і Саветамі акажацца або маланкава-кароткай, або нязвычайна доўгаю. Задача Японіі — замацаваньне на Далёкім Усходзе і заваяваньне значнае часьці Забайкальля — сама па сабе вымагае вельмі вялікага часу.

Але вайна можа скончыцца хутка толькі ў тым выпадку, калі савецкаму саюзу з самага пачатку ўдасца спыніць японскае наступленьне. Дзеля гэтае мэты можа паслужыць савецкая авіацыя, як вельмі магутная зброя.

Маючы базы ў Прыморскім вокрузе, савецкая авіацыя можа зьнішчожыць самыя буйныя цэнтры праціўніка. Калі-ж нават Японія пасьпее (што мала праўдападобна) стварыць паветраны флёт, роўны савецкаму, або і большы за яго, дык небясьпека для яе будзе толькі аслаблена, але ня ўхілена зусім. Паветраны флёт заўсёды зможа прарвацца і нанясьці праціўніку сур'ёзныя шкоды. У гэтай паветранай дуэлі тэхнічныя і матар'яльныя перавагі бязумоўна, на старане савецкае авіяцыі, —цьвердзіць Троцкі.

Але савецкай авіацыі прыходзіць на падмогу і геаграфія. Усе буйныя цэнтры Японіі зусім адкрытыя дзеля паветранага нападу, а японск'я авіатары ня могуць

але затое недаўгавечны. Больш трывалага замацаваньня пяскоў можна дасягнуць, калі на іх засадзіць спэцыяльныя кусты або дрэвы. Найлепей для гэтае мэты надаецца куставая лаза т. зв шалюга. Шалюга можа расьці на адным месцы да 15—2) гадоў. Шалюга гэта досыць высокая лаза, галінкі якой маюць вішнёва-чырвоны колер з як-бы васковым налётам. Дубцы для пасадкі выразаюцца вясною, покуль не набракнуць пупышкі, або восеньню, калі ападуць лісьці; аднача сна праводзіцца і пасадка.

Садзяць шалюгу на пясках трыма способамі: 1) заворваньнем ветак шалюгі ў баразны, 2) пасадкі зрэзкамі і 3) спосабам усьцілачным.

Найлягчэйшы спосаб пасадкі шалюгі — гэта пасадка ў баразны. Баразны аруцца 25 цэнтымэтраў ($5\frac{1}{2}$ вярш.) глыбінёю і ў аддаленьні 2 мэтраў адна ад другой. Дубцы павінны быць перад пасадкай абцярэблены ад бакавых галінак, а вяршок сьцяты. Так прыгатаваныя дубцы кладуцца на дно баразны, каб канец аднаго дубца заходзіў за другі. Пасьля гэтага баразна засыпаецца і ўтоптваецца нагамі.

Пасадка зрэзкамі робіцца наступна: загатаўляюцца зрэзкі аднагадовыя або трохгадовыя і садзяцца ў радкох на 2 мэтры ад сябе аддаленых; аддаленьне аднаго дубца ад другога бывае звычайна каля $\frac{3}{4}$ мэтра. Глыбіня пасадкі 35 цэнтымэтраў (8-10 вяршк.).

Усьцілачны спосаб палягае на тым, што дубцы шалюгі кладуцца ў рад, зрэзанымі канцамі супроць пануючага ветру і пры помачы пруткоў і калкоў прымацоўваюць іх да зямлі. Так уложаныя дубцы хутка вецер прысыпае пяском і яны пасьля пачынаюць расьці. Пасадка гэтым способам адбываецца таксама ў восені або раньняю вясною.

Дагляд за плянтацыяй шалюгі палягае на тым, што ў першы год дасаджваюцца тыя месцы, дзе яна загінула, а ў восені яна скошваецца або зразаецца, каб менш кусьцілася. Праз кожныя тры-чатыры гады трэба яе высечы, бо інакай яна хутка можа цалком загінуць.

*З К.*

## Перачытаўшы газэту — перадай другому.

## Мёд і яго прыметы.

Мёд гэта салодкі сок або нектар, сабраны пчоламі з кветак і перароблены ў іх зобе. Кветкі, з якіх пчолы зьбіраюць мёд, маюць вялікі ўплыў на яго вартасьць. Асабліва славіцца пахучы мёд кветак ліпы т. зв. *ліпец*. Досыць добры таксама празрысты, амаль як вада, мёд акацыі. Наагул колер мёду залежыць ад расьлінаў, з якіх ён зьбіраецца. Мёд, які зьбіраецца з канюшыны і з акацыі, зусім сьветлы, з грэчкі жоўты, з верасу цёмна-жоўты. Іншы раз у мёдзе бывае лёгкі адценак чырвонаваты або зялёнаваты. Вартасьць мёду залежыць ня толькі ад расьлінаў, але і ад мясцовасьці, ў якой ён зьбіраецца. Прыкладам у старой Грэцыі славіўся сваёй пахучасьцю мёд, які зьбіраўся ў Гімэцкіх горах. Горшы па сваёй вартасьці зьяўляецца мёд, які зьбіраецца ў нізкіх і балоцістых мясцох. Вартасьць мёду акрэсьліваецца яшчэ па яго паху і смаку. У нас да лепшых залічаецца па свайму паху і смаку мёд з ліпы, г. зв. *ліпец* Наагул аднак прыемны смак мае мёд мяшаны, каторы паходзіць з розных кветак.

Прыметы добрага мёду наступныя: 1) толькі што выкачаны мёд павінен быць чысты і трохі празрысты; 2) у холадзе мёд цьвярдзее і зацукроўваецца; 3) калі яго паставіць у кіпяток, ён ізноў робіцца рэдкім, быццам толькі што выкачаны. Пры ядзе чысты мёд не павінен падражняць горла, а затое павінен адзначацца лёгка прыметным яму смакам і пахам.

*А. А.*

## Акт абвінавачаньня супроць бальшавікоў.

Дэлегат Швайцарыі Мотта, выступіўшы з прамовай у палітычнай камісіі Лігі Народаў адносна прыняцьця СССР у Лігу, заявіў: „Швайцарскі народ цьвёрда трымаецца сваёй пастановы, што да непрызнаваньня маскоўскага ўраду. Швайцарскае пасольства было разбурана і разграблена падчас бальшавіцкай рэвалюцыі, аднак маскоўская ўлада не палічыла за патрэбнае нават перапрасіць Швайцарыю“.

Па думцы Мотта, урад, які вызнае доктрыну змагаючагася камунізму, не адкажа варункам, неабходным дзеля ўступленьня ў Лігу. Камунізм зьяўляецца запярэчаньнем усіх ідэяў, якія служаць падставай існаваньня народаў. Камуністы змагаюцца з рэлігіяй, камунізм разьбівае сямью, адкідае прыватную ўласнасьць, карыстае з прымусовай працы, уводзячы паншчыну. Гэтая зьяўляецца вынікам неправільнай эканамічнай сыстэмы. Мэта камунізму—сусьветная рэвалюцыя. Ці-ж ня Ленін называў Лігу бандыцкім прадпрыемствам? Швайцарыя стаіць на тым становішчы, што допушчэньне СССР у Лігу — рэч вельмі рызыкоўная. Калі Саветы будуць дапушчаны ў Лігу, паўстане пытаньне адносна Украіны, Беларусі, Грузіі і інш. Мы будзем дамагацца ад савецкага ўраду высьненьняў адносна антырэлігійнай прапаганды, а таксама высьненьняў іншых няпрыемных для Саветаў рэчаў.

## Новыя ваенныя саюзы.

Як падае газэта „Дэйлі Мэйль“ — прадбачацца новыя ваенныя блёкі. У склад першага мае ўвайсьці „Нямеччына, Польшча, Югаславія і Вэнгрыя“. Гэтая коаліцыя, па думцы лорда Ротэрміра, будзе найбольш магутнай, якую толькі бачыла Эўропа ад часоў Напалеона.

Другую групу дзяржаў, у склад якой ўвойдзе Францыя Італія, СССР,Чэхаславаччына і Румынія, газэта лічыць менш сільнай. Францыя згодзіцца ваяваць толькі дзеля самаабароны. На СССР наагул ня можна разьлічаць. Чэхаславаччына, у якой жыве да 3-х міліёнаў немцаў, ня можа браць удзел у вайне супроць Нямеччыны. Румынія-ж вельмі слабая. (Аб Італіі не гаворыцца нічога).

Вывад газэты такі: што Англія павінна якнайхутчэй заявіць, што яна ня будзе ўмешывацца ў контынэнтальныя конфлікты.

## Гітлер аб француска-нямецкіх адносінах.

Як падае адна француская газэта, карэспондэнт якой быў прыняты і меў гутарку з Гітлерам, апошні, паміж іншым заявіў, што ён імкнецца *палепшыць француска-нямецкія адносіны*. Пачаткам палепшаньня гэтых адносін была-б аканчальнае вырашэньне пытаньня паміж Францыяй і Нямеччынай адносна саарскага вокругу.

Што датычыць павароту Нямеччыны ў Жэнэву, то ён будзе магчымым толькі тады, калі Нямеччыне будуць прызнаны усе правы. Гітлер зьвяртае ўвагу на тое, што з мамэнтам уступленьня ў Лігу Народаў СССР, ствараецца зусім новае міжнароднае палажэньне, бо Саветы яшчэ больш пачнуць імкнуцца расшырыць камуністычную агітацыю на ўвесь сьвет.

На заканчэньне гутаркі, Гітлер выражае пэўнасьць, што французы пачнуць прыяжджаць у Нямеччыну ў большым ліку і, што гэта прычыніцца да ўзмацаваньня добрых адносін паміж двумя суседнімі дзяржавамі, даючы аднача сна магчымасьць пазнаньня фактычнага эканамічнага і палітычнага палажэньня кожнай дзяржавы.

## Ваенная падрыхтоўка Італіі.

Рада Міністраў на чале з Мусоліні выдала новае распараджэньне адносна ўзмацаваньня і прысьпешаньня ваеннай падрыхтоўкі Італіі. Уводзіцца агульнае, прымусовае вайскова-прыгатаваўчае абучэньне моладзі ад 8 да 21 года, г. зн. да часу ўступленьня ў войска. Ваеннае абучэньне моладзі будзе адбывацца ў трох розных організацыях. Кожны грамадзянін Італіі, пасьля сканчэньня 18 гадоў, лічыцца жаўнерам. Ад 18 да 21 года служыць ён у фашыстоўскіх організацыях, а пасьля гэтага ў войску. Другі закон гаворыць аб абучэньні рэзэрвістаў. Пасьля адбыцьця службы ў войску, кожны, у працягу яшчэ дзесяці гадоў, будзе пакліканы некалькі разоў на праверачныя курсы для рэзэрвістаў. Апрача гэтага, у сярэдніх і вышэйшых школах уводзяцца спэцыяльныя вайсковыя курсы. Бяз пасьведчаньня „аб ваеннай культуры“ ніхто з канчаючых школу не атрымае дыплёму, а гэтую культуру „будуць прышчэпліваць моладзі афіцэры.

Італьянская прэса з задаволеньнем вітае пастанову Рады Міністраў, скіраваную да ўзмацаваньня ваеннай падрыхтоўкі італьянскага народу. Газэты бачуць у гэтай пастанове рэалізацыю нядаўніх слоў Муссоліні: „мы ўсё больш ператвараемся ў мілітарыстычны народ, якога палітычнае, гаспадарчае і духовае жыцьцё будзе прытарнавана да ваенных патрэбаў“.

хутчэй распранайцеся.

У вопратцы Настулька мела зашытыя тры даляры і крыху баялася, што гэтая ведзьма намацае іх.

Але вобыск нічога ня даў і баба хутка выйшла.

Праз пару гадзін яна прынясла ім палудзень: некалькі ложак поснае, бяз ніякага жыру, прасяное кашы і 150 грамаў хлеба на кожную.

— Папалудні можаце сабе адпачываць з дарогі,—сказала баба,—а заўтра я вазьму вас на работу да кухні; умееце варыць?

— Гэткую пышную кашу, дык напэўна ўмеем,—жартам адказала Настулька.

Лярыса голасна зарагатала.

— А што, нясмачна пасьля вашых панскіх прысмакаў? —агрызнулася баба, не чакаючы адказу і выходзячы за дзьверы ды замыкаючы іх ключом.

Яшчэ на вартоўні запісалі прозьвішчы дзяўчат. Яны назваліся праўдзівымі імёнамі.

Неспакойная і бяссонная ночу кустох пры пераходзе граніцы давала сябе адчуваць і сон хутка ахапіў іх стрывожаныя душы.

V.

Увечары зьявілася баба з нейкім незнаёмым у вайсковай вопратцы, які выклікнуў:

— „Насьця Дзягілевіч!“

— „Лярыса Ваўчок!“

— Гэта мы, — адказала за абедзьвюх Настулька.

— Да сьледаваццеля, на допыт; Насьця Дзягілевіч першая, — скамандаваў вайсковы, — *без вещей* і не марудзіць, паваеннаму...— дадаў ён востра.

Настулька пайшла за ім. Сьледавацель сядзеў у невялікім пакоі з вокнамі бяз кратаў.

— Сядайце,—сказаў ён ветліва, — і раскажэце, як вы сюды папалі да нас?

— Мяне з Лярысаю арыштавалі на граніцы...—адказала Настулька.

— Гэта я ўсё ведаю,—перабіў сьледавацель,—але, што вас змусіла ісьці ў Савецкі Саюз?

Настулька пачала казаць праўду:

— Я думала знайсьці тут працу і вучыцца. Лярысін брат пісаў няраз да яе, каб сюды прыехала. Гэта заахвоціла і мяне ісьці разам з ёю...

— А хіба-ж там у вас ня было працы?

— Я ўжо пры савецкай уладзе скончыла апошнюю клясу расейскае жаноцкае гімназіі, служыла дзелаводам у прадкоме.. Пасьля з маткаю і братамі мы выехалі ў Заходнюю Беларусь, на бацькаўшчыну... У нас там тры дзесяціны зямлі, а дружына складаецца з бацькі, маці і трох братоў... Жыць цяжка... Папольску я ня вучылася! службы атрымаць не магла, думала, што ў саветах лягчэй будзе ўстроіцца...

— А ці належалі вы да Ка-Пэ-Зэт-Бэ? — ізноў перабіў сьледавацель.

— Не,—адказала Настулька,—чула, што ёсьць гэткая партыя, там шмат каго з хлапцоў паліцыя за яе трывожыла, але я жыла ў маленечкай вёсачцы і ў нас ня было яе.

— Так,—сказаў сьледавацель,—а скуль вы знаеце Лярысу Ваўчок?

— Мы з аднае вёскі.

— Ага!... Вы вось сказалі, што выехалі, пасьля службы ў прадкоме, на бацькаўшчыну з братамі і маткаю, а дзе быў ваш бацька?

— Бацька ў той час быў аж у Баўгарыі, бо мабілізованы быў белымі і праз Крым вывезены туды...

— А чаму ён быў белымі мабілізованы?

— Ня ведаю, хіба таму, што ў вялікую вайну быў прапаршчыкам..

— Зразумела! — падхапіў сьледавацель, — а ці ня служыў ён часам у белых у разьведцы?

— Не,—у пяхоце.

— Вы гэта напэўна ведаеце?

— Напэўна, бо ён і на вайне быў у пяхоце.

— А цяпер бацька ваш дома, на бацькаўшчыне?

— Так! Яму, пасьля доўгіх трудоў, удалося выбрацца да хаты з Баўгарыі.

— А што вы думалі рабіць у нас?

— Думала атрымаць якую-небудзь службу, у канцэлярыі ці ў школе, напрыклад, і шукаць магчымасьці вучыцца ну, хоць-бы ў кансэрваторыі.

— Іграць?

— Не, пяяць.

— А вы папольску цяпер добра ўмееце?

— Чытаю і пішу даволі добра, а гаварыць магу слаба.

— А ці маглі-б вы вярнуцца назад, каб працаваць у нашай арганізацыі?

— Не, я хацела-б тут дастаць працу.

— Гм... Можаце ісьці.

— Выбачайце, пане... ах, выбачайце, таварыш сьледавацель, — пачала, устаючы з табурэта Настулька, — што з намі будзе далей?

— Ня ведаю, я пашлю вашае паказаньне ў Менск у ГПУ, там пастанаўляюць аб гэткіх справах.

Нудны допыт скончыўся. Сьледавацель пазваніў, прыйшла тоўстая баба і адвяла Настульку назад да Лярысы, якую забрала да сьледаваццеля на допыт.

— Прасі сьледаваццеля, каб пазволіў табе напісаць пісьмо да брата, — парадзіла Лярысе Настулька, калі тая была ўжо з бабаю ў дзьверах.

Сьледавацель пазволіў і Настулька да позняе ночы пісала пасьля пісьмо да Лярысінага брата, апісваючы сумнае палажэньне дзяўчат. Пісьмо павінна было ісьці праз рукі сьледаваццеля не закрытым.

Больш іх на допыт не цягалі.

(Канец будзе).

*Краўцоў Макар.*

## Балтыцкія дзяржавы і ўсходні пакт.

Як даносіць латвійская прэса, на конфэрэнцыі прадстаўнікоў балтыцкіх дзяржаў у Жэнэве: Латвіі, Эстоніі і Літвы прызнана, што прыступленьне балтыцкіх дзяржаў да ўсходняга пакту у францускай рэдакцыі зьяўляецца неактуальным. Балтыцкія дзяржавы бяруць пад увагу тое, што дзеля неспрэцызаванага становішча ў гэтай справе Польшчы і Нямеччыны, удзел у пакце гэтых трох дзяржаў быў-бы толькі абаронным саюзам, скіраваным насрэдна супроць Польшчы і Нямеччыны, што пярэчыла-б традыцыйнай палітыцы польска-эстонскай прыязьні, пагоршыла-б польска-літоўскія і нямецка-літоўскія адносіны.

Дзяржавы гэтыя, аднак не адкідаюць самой ідэі ўзаемных пактаў паміж паасобнымі дзяржавамі.

## Гаспадарчая палітыка Нямеччыны.

Лідэр нацыяналістаў гамбурскага вокругу, д-р Бэкэр, прачытаў лекцыю на курсах для моладзі адносна гаспадарчай палітыкі Нямеччыны. Нац. сацыялістычная дзяржава, заявіў ён, ня будзе браць прыкладу з саветаў, у сэнсе падпарадкаваньня сабе гаспадарчага жыцьця, дзеля чаго не нарушае прыватнай уласнасьці і асабістай ініцыятывы паасобных адзінак. Нашай мэтай зьяўляецца павольная ліквідацыя прыватнага промыслу і ўзмацаваньне сялянскай гаспадаркі, якая ў прышласьці станецца падставай гаспадарчага жыцьця „Трэцяй Рэспублікі". Гэта значыць, што Нямеччына стараецца ператварыць сябе ў аграрную дзяржаву

Трэба аднак адцеміць, што падобная пастаноўка справы можа быць для Нямеччыны небясьпечнай, дзеля таго, што аграрная культура стаіць там і так вельмі высока і значнай надвыжкі рольных прадуктаў спадзявацца ня можна, а ліквідацыя прыватнага промыслу прынясе нэгатыўныя вынікі ў сэнсе прадукцыйнасьці.

## Француска-савецкі Саюз.

Некаторыя жэнэўскія корэспондэнты францускіх газэтаў падаюць, што Барту і Літвінаў маюць у хуткім часе падпісаць дагавор, на падставе якога Францыя і СССР загарантуюць узаемнае падтрыманьне ў выпадку вайны адной ці другой дзяржавы з Нямеччынай. Францускі Урад, падобна выразіў пажаданьне, каб Саюз з СССР быў падпісаны яшчэ да заканчэньня Сэсіі Лігі Народаў у Жэнэве.

Гэтыя палітыкі: Барту і Літвінаў, маюць на ўвазе яшчэ і тую акалічнасьць, што надзея заключэньня ўсходняга пакту яшчэ ня страчана дзеля таго, што Польшча дагэтуль не дала яснага адказу ў гэтай справе. Аканчальны адказ спадзяюцца атрымаць у канцы прышлага тыдня.

## Саветы прадалі К. У. чыгунку.

Як падае японская прэса, паміж савецкім паслом Юрэьевым і японскім міністрам заграпічных спраў Хіротай падпісана ўмова, на падставе якой савецкі Урад забавязваецца прадаць Манджурыі Кітайска-Усходнюю чыгунку за 170 міл. ен (больш менш 300 міл. злотых). Падчас пачаткавых перагавораў бальшавікі запрасілі за гэтую чыгунку 600 міл. ен.

Частка гэтай сумы (дзьве трэцях), будзе заплачана таварамі, частка-ж грашамі на расплату ў працягу трох гадоў. Што датычыць савецкіх урацоўцаў, якія там даволі шмат працуе, то яны будуць зьвольнены са службы не раней як пасьля 6 месяцаў.

Гэтая нявыгадная прадажа сьведчыць аб слабасьці Саветаў, якія ўсялякімі сіламі стараліся, каб не дайшло да аружнага спатканьня з Японіяй, дзеля чаго пайшлі на найдалей ідучы компроміс.

## У Гішпаніі ізноў неспакойна.

Гішпанскі міністр унутраных спраў апублікаваў матэр'ялы, датычачыя зьліквідаванага ня так даўна рэвалюцыйнага загавару ў Гішпаніі. З гэтага матэр'ялу вынікае, што паліцыя знайшла ў памешканьні былога соцыялістычнага пасла ў Мадрыдзе лабараторыю дзеля прыгатоўваньня бомбаў і 90 кілёграмаў дынаміту. У памешканьні адной спартовай організацыі знойдзена вялікая колькасьць рэвальвэраў, стрэльбаў, бомбаў і іншых матэр'ялаў. У Мадрыдзе арыштаваны кіраўнік прапаганды і некалькі студэнтаў, належачых да студэнцкай соцыялістычнай організацыі, маючай аграмадное значэньне ў гішпанскіх унівэрсытэтах. Арышт наступіў у мамэнт перавозкі вялікшай колькасьці аружжа. Падчас арышту, з аўтамабілю, які канваяваў транспарт, пачалася стрэляніна з кулямётаў.

Сьледзтва, якое вельмі энэргічна вядзецца ў гэтай справе, устанавіла, што рэвалюцыя мела быць гэтымі днямі. Раськідываныя бомбы, згодна з плянам, выклікалі-б паніку сярод жыхароў вайбольшых вуліцаў Мадрыда. Тымчасам былі-б узарваны грамадзкія і дзяржаўныя будынкі, ваенные міністэрства, мін'стэрства камунікацыі, дэпартамэнт паліцыі і іншыя, і застрэлены ўсе асобы, носячыя форму. У плян соцыялістаў уваходзіла таксама перадача рэвалюцыйнаму трыбуналу ўсіх міністраў і безадкладны іх растрэл.

Урад усімі сіламі імкнецца зьліквідаваць да канца гэты бунт.

## У СССР забаронена прадажа хлеба.

Рада народных камісараў выдала дэкрэт, дазваляючы толькі коопэратывам купляць хлеб (зярно) ў колхозах, совхозах і індывідуальных гаспадарках. Хлеб, аднак, маюць права прадаваць толькі тыя гаспадаркі, якія здалі адпаведную колькасьць хлеба ўраду. Паасобным сялянам, уласьнікам індывідуальных гаспадарак, сябрам совхозаў і колхозаў забараняецца, адначасна, прадаваць хлеб на вольным рынку, у гарадох, вёсках, станцыях і наагул прыватна, без дазволу адпаведных уладаў. Бяручы-ж пад увагу, што нормы хлеба, якія павінны ці то колхозы, ці то паасобныя гаспадаркі ўнесьці ў дзяржаўны сьвіран, зьяўляюцца вельмі высокімі і поўнасьцю не выпаўняюцца, бо няма з чаго. Можна з поўнасьцю сказаць, што хлеба на прыватную прадажу няма, і „дазвол уладаў у выняткавых выпадках" зьяўляецца ілюзорычным.

## Катастрофа ў Японіі.

Як падаюць японскія газэты, гэтымі днямі пранёсься над Японіяй тайфун, прычыніўшы аграмадныя шкоды. Найбольш пацярпеў прамысловы раён Осака. Зьнішчаны ўвесь ураджай рысу. Паводле афіцыяльных дадзеных, у Осака падчас тайфуну зьгінула 1939 чал., 6000 чал. ранена і 586 чал. прапала нявядама дзе. Разбурана 144 школы, 3914 будынкаў і 3212 фабрыкаў. 160.000 дамоў знаходзіцца пад вадой. Тайфун пранёсься з такой шыбкасьцю, што ўсе гэтыя зьнішчэньні былі зроблены ў працягу якіх небудзь 20 мінут. Школы прычыненые тайфунам выносяць каля 500 міл. ен.

## Царкоўнага жыцьця.

*Зьмена вехаў.* У апошнія часы ў Варшаўска Холмскай і Валынскай эпархіях праводзіцца сярод духавенства „чистка", праходзячая пад знакам „размаскоўленьня" эпархіяльных кіраўніцтваў. У Варшаўска-Холмскай эпархіі зволнены з сваіх становішч еп. Савва, прат. Рудлевскі і некалькі іншых расейцаў, а ў Валынскай эпарх — місыянэр І. Перэтрухін, працаўнікі тутэйшай Кансысторыі П. Юдэнко, сэкрэтар Кансысторыі В. Покровскі, Шайдіцкі, Жыхарэў, Боголюбаў і цэлы рад іншых. Расейская прэса з гэтае прычыны робіць шмат крыку, пераконываючы ўсіх, што з хвілінай разгону ўсіх гэных „деятелей" пацерпіць шмат Царква. Трэба думаць што будзе якраз наадварот, бо ў Царкве скончыцца нарэшце палітыканства, найбольш для яе шкоднае.

*Дымісыя Мітр. Дзяніса.* Расейская газэта „Рускій голос" падала вестку аб тым, быццам Мітрапаліт Дзяніс падаўся ў дымісыю. Пасад мітрапаліта мае заняць архіепіскап Аляксей. Паводле іншых вестак сярод нашых гіерархаў ў хуткім часе адбудуцца вялікія пэратасоўкі. У Вільню мае быць вызначаны вікарны епіскап, кандыдат беларусаў.

Пры газэце „Родны Край" адчыняецца

## КУТОК праўных парадаў.

Заінтэрэсаваныя асобы могуць зьвяртацца пісьменна ў Рэдакцыю (праўны куток) з запытаньнямі, на якія будзе дадзены адказ: кароткі ў газэце, даўжэйшы ў пісьме. На адказ пісьмом трэба далучыць марку на 30 гр.

## З краю.

— Як падаюць польскія газэты, міністэрства юсьтыцыі запатрэбавала ад Апэляцыйнага і Акружнага судоў у Варшаве акт у справе былых вязьняў у Берасьці. Адзін і другі суд запрапанавалі выдаць амнэстыю адносна гэтых вязьняў. Апублікаваньне дэкрэту у справе амнэстыі, падпісанага мін. Міхалоўскім, трэба спадзявацца ў хуткім часе. Амнэстыя ня будзе датычыць Вітаса, Багінскага, Керніка, Лібэрмана і Прагера дзеля таго, што яны пражываюць заграніцай. Амнэстыя будзе застасавана толькі да тых засуджаных, якія пражываюць у Польшчы.

— Старыя пяці залатовыя манэты ня будуць прымацца пасьля першага кастрычніка 1934 г.

— Абонэнтам польскага радыё, пражываючым на вёсцы, паніжаецца аплата. Замест 3 злотых, як было дагэтуль, будуць яны плаціць толькі адзін злот. Палёгкай гэтай будуць карыстацца толькі тыя сяляне, якія жывуць з даходаў са сваёй гаспадаркі. Жыхары гарадоў гэтай палёгкай карыстацца ня будуць.

— *Вайсковы падатак.* Паводле новага закону, ад вайсковага падатку звальняецца той, хто прайшоў курс ваеннага абучэньня і падчас прызыву атрымаў катэгорыю »С«, »D« або »Е«. Паўстае пытаньне, ці звальняецца ад вайсковага падатку той, хто не атрымаў вымененай катэгорыі і прайшоў курс ваеннага абучэньня. Высьненьне ў гэтай справе мае даць у хуткім часе міністэрства ўнутр. спраў.

— У часе ад 10 кастрычніка да 13 сьнежня г. г. будуць *купляцца коні для войска.* Рост каня павінен быць ня ніжэйшы 145 цт. і ня вышэйшы 150 цт. Цана разнародная: ад 300 да 3.000 злотых, залежна ад якасьці каня. Апрача таго большую цану атрымоўваюць тыя, хто належыць да гадаўляных гурткоў, а таксама тыя, хто прадаванага каня сам выгадаваў, або гадаваў найменш у працягу 6 месяцаў. На зборным пункце трэба быць у азначаным дні ўжо а гадз. 7-ай рана, каб дастаць карту уступу. Бяз гэтай карты ніхто ня будзе магчы прадаць каня. З сабой трэба мець усе дакумэнты аб каню. Зборныя пункты назначаны ў наступным парадку: 8 і 9 кастрычніка ў Відзах, 10 кастрычніка — у Друі, 6 лістапада — у Ляхавічах, 7 і 8 лістапада — у Міры, 9 лістапада — у Наваельні, 4 сьнежня — у Скрыбаўцах, 5 сьнежня — у Лідзе, 6 сьнежня — у Багданаве, 7 сьнежня — у Маладэчне, 12 сьнежня — у Сьвянцянах і 13 сьнежня — у Глыбокім.

— *Агранамічны аддзел* пры Віленскім Унівэрсытэце, аб якім было ведама, што зачыняецца, утрыманы і ад 24 г. м. адчынена прыймо студэнтаў на І курс гэтага аддзелу.

— Як падае „Пid", пачаўся ўвоз з Саветаў у Польшчу гастранамічных тавараў. У працягу мінулага тыдня ў Варшаву прывезена з СССР. 20 тыс. кілёграмаў чорнай і чырвонай ікры. Чырвоная ікра каштуе 18 зл. кілёгр., а чорная 110 зл. Прывезена таксама 20 тысяч літраў крымскага віна. У працягу наступных 2 х мес цаў будзе ўвезены новы транспорт 20.000 літраў віна і 150 тыс. кіл. яблыкаў (праз Гдыню).

— Школьнымі ўладамі выдана распараджэньне, забараняючае вучням ніжэйшых і сярэдніх школаў браць удзел у вулічных кружачных зборах.

— Апублікавана новы закон у справе процілётнічай абароны. Закон гэты дакладна рэгулюе компэтэнцыю ўладаў абароны паветранай абароны і падрыхтоўкі да яе. Прыватная ініцыятыва „LOPP"-у пяройдзе ад гэтага часу ў рукі адпаведных уладаў. У законе гэтым выменены і спосабы здабываньня адпаведных рэсурсаў: не дарогай дабравольных складак, а праз увядзеньне раўнамернага і справядлівага ападаткаваньня.

## Заграніцай.

× **Японскі** ваенны міністр Хаяшы ў гутарцы з амэрыканскім корэспондэнтам заявіў, што японскае войска будзе ў **Манджурыі** да таго часу, пакуль існуючыя там розныя банды ня будуць аканчальна зьліквідаваны і пакуль ня ўзмоцніцца ўлада, каб сваімі сіламі магла ўтрымаць у сваёй дзяржаве існуючы рэжым.

× Як падае газ. „Таймс" у Казанстане, аднэй з чатырох правінцыяў **савецкага** Туркестану, успыхнула паўстаньне, якое было зьліквідавана толькі пасьля даўжэйшых бітваў. Зьнішчана многа будынкаў і арыштавана да 15 тысяч чалавек.

× У **Баўгарыі** урад Георгіева здэцыдаваным спосабам уводзіць у дзяржаве дыктатуру. Зволнена са службы больш 6 тыс. дзяржаўных урадоўцаў, на якіх пала падазрэньне, што не спачуваюць заіснаваўшай перамене. Замест распушчанага парляманту, проэктуецца скліканьне гэтай зімой новага, коопэратыўнага парляманту, абапёртага на італьянскай фашыстоўскай доктрыне. Таксама ўводзіцца, у шматлікіх галінах гандлю і промыслу, манаполь.

× Чатырохдзённая ўзабастоўка работнікаў у **венгэрскіх** капальнях у Фюнфкірэне закончылася перамогай работнікаў. Адміністрацыя змушана была споўніць дамаганьні работнікаў і безадкладна выплаціць затрыманую плату. У забастоўцы гэтай брала ўдзель больш 3.500 работнікаў.

Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ. Выдавец: ТБА. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22.